ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIII № 316 Нью Ёрк — Люты — 1984 — February — New York Vol. XXXIII № 316

## ЧЫСТКА ЗА НЕРАСЬСЛЕДАВАНЫЯ ЗАБОЙСТВЫ

13-га сьнежня летась у беларускім рэспубліканскім друку было зьмешчанае паведамленьне пад заг. „У Бюро ЦК Кампартыі Беларусі". У гэтым паведамленьні, між іншага, казалася, што Бюро ЦК КПБ разгледзела матар'ялы артыкулу пад загалоўкам „Цень аднае памылкі", які быў зьмешчаны ў газэце „Известия" за 27-га лістапада летась. У выніку гэтага разгляду Бюро ЦК Кампартыі рэспублікі пастанавіла зьняць са службовага становішча наступных асобаў: міністра нутраных справаў БССР Жабіцкага, ягонага першага заступніка Жука, пракурора рэспублікі Магільніцкага, першага заступніка рэспубліканскага пракурора Дудкоўскага і члена Вярхоўнага Суда БССР Пыльчанку.

Апрача таго, як сказала ў пастанове Бюро ЦК КПБ, зьнятыя з пасадаў і павыключаныя з партыі шмат другарадных працаўнікоў органаў нутраных справаў і пракуратуры ў Гомельскай вобласьці ды ў горадзе Мазыры.

Дык што-ж сталася прычынаю такога разгрому кіраўніцтва рэспубліканскіх праваахоўных органаў? Што здарылася? А здарылася вось што.

У ліпені 1981 году на возеры Вялікае Асавішча, што ў Гомельскай вобласьці, былі забітыя інспэктар Мазырскае міжраённае інспэкцыі „Белрыбводу" Сымон Кузьменка і сьледчы Мазырскай міжраённай пракуратуры Уладзімер Кузьмянкоў. Іх жывымі ўтапілі ў возеры.

На пошукі злачынцаў кінуліся як мясцовыя сьледчыя органы, гэтак і Міністэрства Нутраных Справаў БССР і пракуратура рэспублікі. Неўзабаве былі арыштаваныя пяць мясцовых жыхароў. Сьледзтва вялося супольна пракуратурай і міліцыяй паўтара гады. Усе абвінавачаныя прызналіся ў забойстве й справу ськіравалі для разгляду ў Вярхоўны Суд БССР.

На судзе аднак усе пяць абвінавачаных катэгарычна адмовіліся ад сваіх паказаньняў на папярэднім сьледстве. Яны заявілі суду, што ніякага забойства не рабілі, а прызналіся таму, што да іх ужываліся недазволеныя мэтады сьледзтва, прасьцей кажучы — фізычнае ўзьдзеяньне.

Вярхоўны Суд БССР ськіраваў справу на дадатковае расьледваньне ў органы пракуратуры, але па некаторым часе справа ізноў была пастаўлена на разгляд у Вярхоўны Судзе. Гэтым разам усе пяцёх былі прызнаныя вінаватымі ды засуджаныя — трое на 15 год пазбаўленьня волі, двое на восем год. Усе яны пайшлі ў турму.

Прайшло два з палавінаю гады. І вось у красавіку летась у тым-жа Мазырскім раёне ізноў адбылося забойства. Гэтым разам былі забітыя два міліцыянеры: лейтэнант Марціновіч і сяржант Царэнка. Злачынцы былі злоўленыя й адразу-ж прызналіся ў забойстве. Адначасна яны прызналіся і ў тым, што два з палавінаю гады таму яны забілі на возеры Вялікае Асовішча рыбнага інспэктара Кузьменку ды сьледчага пракуратуры Кузьмянкова. Спачатку ім не паверылі — за гэтае-ж забойства пяць асобаў былі ўжо даўно пасаджаныя ў турму. Але злачынцы дакладна паказалі месца забойства й расказалі пра ўсе ягоныя падрабязнасьці.

Такім чынам выявілася, што пяць асобаў два з палавінаю гады сядзелі ў няволі за злачынства, якога яны не зрабілі, прасьцей кажучы, былі асуджаныя ні ў чым не вінаватыя людзі.

Пра ўсё гэта напісаў спэцыяльны карэспандэнт газэты „Известия" ў Беларусі Мікалай Матукоўскі ў артыкуле пад загалоўкам „Цень аднае памылкі". Матукоўскі слушна паставіў пытаньне: хто павінен несьці асабістую адказнасьць за гэтае грубейшае парушэньне законнасьці? Чаму, калі выявілася памылка, пракуратура рэспублікі абмежавалася толькі тым, што зьняла з пасады пракурора Гомельскае вобласьці Таўкачова ды сьледчага Жаўняровіча?

І вось Бюро ЦК Кампартыі Беларусі зарэагавала на артыкул Матукоўскага ў цэнтральным органе друку: былі паздыманыя з пасадаў усе галоўныя кіраўнікі міністэрства Нутраных Справаў БССР і Пракуратуры рэспублікі.

Здавалася-б, што справядлівасьць затрыюмфавала — невінаватыя людзі звольненыя з турмы, а вінаватыя пакараныя, хоць сабе звальненьнем з пасадаў.

Але ёсьць у гэтай справе адна цікавая акалічнасьць. Калі вы прачытаеце ў газэце „Зьвязда" за 13-га сьнежня летась паведамленьне Бюро ЦК КПБ, дык пабачыце, што ўсе зьнятыя з высокіх пасадаў кіраўнікі Міністэрства Нутраных Справаў БССР і Пракуратуры рэспублікі засталіся й надалей членамі камуністычнай партыі — яны атрымалі толькі па партыйнай лініі строгія вымовы. Дык як-жа гэта так?!

Паводля статуту КПСС, да партыі могуць належаць самыя перадавыя, самыя сумленныя прадстаўнікі савецкага грамадзтва. Як-жа могуць заставацца ў партыі асобы, што, за гонар свайго муньдзіру, зрабілі грубейшыя парушэньні законнасьці? Чаму працаўнікоў ніжэйшага рангу, якія бралі ўдзел у незаконным саджаньні невінаватых людзей, павыключалі з партыі, а вышэйшага рангу пакінулі? Адказаў на гэтыя пытаньні няма, але ёсьць навочны довад, што сацыялістычная Фэміда мае завязанае толькі адно вока, а другім прыглядаецца да рангаў.

**А. Насовіч**

## „НАЯЎНЫЯ ХІБЫ" САЮЗУ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

У друку савецкае Беларусі на пачатку сьнежня летась („Зьвязда", 3.XII.83; „Літаратура і Мастацтва", 16.XII.1983) было апублікаванае паведамленьне аб разглядзе на „чарговым" паседжаньні" Бюро ЦК КПБ раду пытаньняў, сярод якіх было й гэткае:

„Разгледжана работа праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР па кіраўніцтву літаратурна-мастацкімі часапісамі. Адзначыўшы як пазытыўны факт публікацыю на старонках часапісаў раду значных твораў, атрымаўшых прызнаньне, Бюро ЦК КПБ прызнала, што Саюз пісьменьнікаў БССР, партыйная арганізацыя саюзу ня робяць яшчэ дзейснага ўплыву на павышэньне ідэйна-мастацкага ўзроўню літаратурных выданьняў. Саюз пісьменьнікаў, рэдкалегіі часапісаў слаба заахвочваюць распрацоўку тэматыкі па карэнных праблемах разьвіцьця народнай гаспадаркі, навукі і культуры, пераўтварэньня вёскі. Недастаткова актыўна робіць уплыў на літаратурны працэс крытыка. Патрабуюць умацаваньня сувязі рэдакцый часапісаў з працоўнымі калектывамі.

„Праўленьню і партарганізацыі Саюзу пісьменьнікаў рэспублікі належыць ліквідаваць наяўныя хібы ў кіраўніцтве літаратурнымі выданьнямі і разам з рэдакцыйнымі калегіямі часапісаў 'Полымя', 'Неман', 'Маладосьць', 'Беларусь' мэтанакіравана, больш настойліва павышаць ідэйны ўзровень, мастацкія варгасьці іх публікацый".

Трэба моцна сумлявацца, ці дырэктыва партыі „больш настойліва павышаць ідэйны ўзровень" літаратурных выданьняў палепшыць іхны мастацкі ўзровень, пабольшыць попыт на іх чытацкае публікі. Партыя ў Савецкім Саюзе заўсёды кіравала літаратурай. Васіль Быкаў яшчэ на пятым зьездзе пісьменьнікаў Беларусі ў 1966 годзе жаліўся, што ў літаратуры ня відаць вялікіх дасягненьняў, бо „ёю закіравалі, яе заняньчылі й затурзалі".

Палажэньне ад таго часу не зьмянілася на лепшае. Выглядае, што наадварот, мяркуючы паводля тыражоў літаратурных часапісаў. Дарэчы, калі ў 1982 годзе ў Нью Ёрку выступаў зь лекцыяй пра беларускую савецкую літаратуру пісьменьнік і літаратурны крытык Алесь Адамовіч, дык ён казаў, што ў савецкай Беларусі няма штучнага абніжаньня тыражоў літаратурных выданьняў, што тыраж таго ці іншага пэрыёдыку абумоўлены попытам на яго. Вось-жа „попыт" на літаратурныя часапісы ў савецкай Беларусі апошнім часам рэзка пайшоў наніз. Калі дапусьціць, што няма штучнага рэгуляваньня тыражоў, калі савецкая русыфікацыйная палітыка не карыстаецца абніжаньнем тыражоў, як мэтадам русыфікацыйнага ціску, дык значыцца, тыражы беларускіх літаратурных часапісаў пайшлі наніз „натуральна" ад спаду чытацкага попыту на іх. Спад гэты ад чаго? Ад таго, што чытач знаходзіць мала цікавага ў літаратурных часапісах. Але не пра палепшаньне мастацкае якасьці або займальнасьці літаратуры рупіцца партыя. Бюро ЦК КПБ хоча, каб беларускія пісьменьнікі займаліся „распрацоўкай тэматыкі па карэнных праблемах разьвіцьця народнай гаспадаркі, навукі і культуры, пераўтварэньня вёскі". Але дзеля тых ці іншых прычынаў у пісьменьнікаў не ляжыць душа да гэтык „карэнных праблемаў". І наўдачу, ці яшчэ адна партыйная пастанова, цяпер ужо андропаўскага кіраўніцтва, палепшыць стан у літаратуры. Найлепшым адказам на гэтае пытаньне будуць далейшыя тыражы беларускіх часапісаў, якія дасюль выглядаюць гэтак:

**Тыраж лістападаўскіх нумароў**

| | 1981 | 1982 | 1983 |
|---|---|---|---|
| „Маладосьць" | 16.487 | 11.167 | 10.544 |
| „Полымя" | 11.000 | 8.183 | 7.153 |

Зьменшаны таксама тыраж і расейскамоўнага месячніка Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі часапісу „Неман", выдаванага ад колькіх гадоў у куды большай колькасьці экзэмпляраў, як „Полымя" й „Маладосьць". Тыраж лістападаўскіх нумароў „Немана" ў вышэй адзначаных гадох быў адпаведна: 147.-000, 145.000 і 115.000 экзэмпляраў.

УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 66-х УГОДКАЎ

**АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ АКТАМ 25 САКАВІКА 1918 ГОДУ**

*адбудзецца ў*

*НЯДЗЕЛЮ, 1-га КРАСАВІКА 1984 г. (пачатак а 2-ой гадз. п./п.)*

*у залі „Стайвэсант Рум" гатэлю Галлорэн Гаўз*

*525 Лэксынгтан Авэню ў Мангэтэне, Нью Ёрк*

*Урачыстасьць будзе адбывацца ў форме банкету.*

***Даезд падземкай: лінія IPT (АйАрТы) да 51-ай вул.***

## ГОЛАС 1884 ГОДУ

Адзначаючы сёлета стагодзьдзе ад выхаду нелегальнага або, кажучы сучасным тэрмінам, самвыдавецкага часапісу „Гоман", выдаванага Беларусамі, пераважна студэнтамі Пецярбурскага Ўнівэрсытэту, зьмяшчаем ніжэй урывак із зваротку рэдакцыі „Гоману" да сваіх чытачоў, у якім некаторыя мамэнты засталіся актуальнымі й па сёньняшні дзень. (Паводля хрэстаматы „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя", укл. С. Александровіч і інш., Менск, выд. „Вышэйшая Школа", 1971, б.б. 191-194)

З усіх народнасьцяў, якія ўваходзяць у склад сучаснае Расеі, доля Беларусаў, як ведама, адметная тым, што на іх ужо здаўна прывыклі глядзець, як на нейкі матар'ял для разнастайных экспэрымэнтаў, а не як на жывую народнасьць, здольную самастойна распараджацца сабою. Зыходзячы з гэтага гледзішча, бліжэйшыя суседзі Беларусаў, карыстаючыся правам мацнейшага, праводзілі над імі свае экспэрымэнты й бясцырымонна накладалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускае народнасьці, пастанавіўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкоўвацца мацнейшым ды асыміляваца зь імі, растварыўшыся ў вялікарускім і польскім моры . . .

На шчасьце для Беларусаў, усе гэтыя экспэрымэнты мелі тут уплыў больш на вышэйшыя слаі, як на рэшту народнае масы, якая беражліва захавала ўсе свае вызначальныя рысы й асаблівасьці. Гэтыя асаблівасьці й маглі служыць залогам будучага шырокага разьвіцьця часова прыгнечанай народнасьці, у якой рана ці позна павінна была абудзіцца нацыянальная самасьведамасьць . . .

Значыцца, беларуская народнасьць, захаваўшы сваю самабытнасьць, павінна будзе бязумоўна заняць у Расеі такое-ж месца, якое імкнуцца заняць іншыя больш ці менш вялікія народнасьці. Беларусь у асобе свае інтэлігенцыі пачынае памаленьку ўсьведамляць свае вызначальныя рысы, як вобласьці, якая адрозьніваецца ад іншых вобласьцяў Расіі. Прасякнутая сучаснымі дэмакратычнымі ідэямі, інтэлігенцыя Беларусі пачынае разумець, што іхная радзіма толькі тады перастане быць яблыкам разладу і смачным кавалкам для суседзяў, калі яна сваймі сіламі даб'ецца свабоды, сама ўладкуецца . . . Гэткія галоўныя прычыны, якія спрыялі ўзьнікненьню асобнай сацыял-рэвалюцыйнае групы, што выступіла на арэну дзейнасьці ў Беларусі . . .

У сучасным мамэньце поруч із змаганьнем за свабоду асобы ідзе ўпартае змаганьне за нацыянальнае раўнапраўе й незалежнасьць, вось чаму фэдэралізм зрабіўся адным з галоўных прынцыпаў прагрэсыўных партыяў усіх краінаў, вось чаму ў рэвалюцыйны катэхізіс увайшла, як незапярэчны догмат, нацыянальная салідарнасьць на аснове роўнасьці, а не падпарадкаваньня . . .

Беларускі народ, як нацыя плябейская, чакае яшчэ зьяўленьня свае інтэлігенцыі. Да гэтага часу ён выдзяляў зь сябе сілы, якія служылі або польскай, або вялікарускай культуры. Глуха, але настойліва пратэставаў ён супраць здрадніцкіх спробаў палянізаваць ці абвелікарусіць яго, і абедзьве сілком навязаныя яму культуры праходзілі міма, не прышчапіўшыся да яго. Сьвята захоўвае ён асновы свайго жыцьця ў чаканьні зьяўленьня свае інтэлігенцыі, якая будзе не ламаць гэтыя асновы, а разьвіваць і ўдасканальваць іх.

Вялікае й сьвятое заданьне беларусае інтэлігенцыі — раскатурхаць магутныя сілы свайго народу, накіраваць прагрэсыўнае разьвіцьцё яго, якое спынілася, даць яму магчымасьць праявіць свой нацыянальны геній, глыбака захаваны ад драпежніцкіх намераў Палякоў і вялікарускага двугаловага арла. Бязь цеснай еднасьці са сваім народам, бяз глыбокага вывучэньня ягоных матар'яльных і духовых запатрабаваньняў, бяз разуменьня й павагі ягоных патрэбаў, што выцякаюць з асаблівасьцяў усяго ягонага мінулага гістарычнага й эканамічнага жыцьця, — усе ідэалы інтэлігенцыі застануцца назаўсёды пустымі гукамі, якімі-б з выгляду дэмакратычнымі яны ні былі. Толькі цалкам зьвязаная з патрабаваньнямі беларускага народу дзейнасьць інтэлігенцыі будзе плённай, толькі прыстасаваныя да ўмоваў жыцьця й культуры беларускага народу ідэалы інтэлігенцыі знойдуць ужыцьцёўленьне на беларускай глебе, судзейнічаючы матар'яльнаму й духоваму росквіту беларускага народу. Лішні раз тады давядзе беларуская нацыянальнасьць даведзенае ўжо ня раз прыкладам іншых плябейскіх нацыянальнасьцяў (славянскія народнасьці ў Аўстрыі, Фіны ў Фінляндыі ды іншыя), што ня нізкі ўзровень культуры выклікае яе падпарадкаваньне, а, наадварот, падпарадкаваньне выклікае застой.

Пецярбург, 1884 г. **„ГОМАН"**

## „БОГАСЛУЖЭНЬНІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ"

У газэце „Зьвязда" за 17 студзеня сёлета зьмешчаны артыкул кандыдата філязофскіх навукаў Г. Марціросава пад заг. „Мяхі падноўленыя — віно старое". Артыкул пра каталікоў на Горадзеншчыне. Аўтар піша аб тым, як каталіцкая царква прытарноўваецца ў сваім вучэньні й прапаганьдзе да вымогаў часу: „усё часьцей і часьцей з амбону гучаць словы, прысьвечаныя сям'і"; узяты кірунак на культываваньне „дамашняе царквы"; праводзіцца „кампанія за катэхізацыю насельніцтва". Як выглядае з таго, што піша Марціросаў, на Беларусі пашыраецца экумэнізм: „Пачасьціліся выпадкі споведзей католікаў у праваслаўных храмах і, наадварот, праваслаўных — у каталіцкіх".

Закранае Марціросаў і нацыянальны аспэкт каталіцтва на Беларусі — крытыкуе формулу „католік — Паляк". „Зьвязда" піша:

„У рэлігійна-прапаведніцкай дзейнасьці, накіраванай на катэхізацыю дзяцей і моладзі, сустракаюцца яўна нацыяналістычныя ноткі. Водгукам антынавуковай ідэі 'Паляк-католік' зьяўляецца пропаведзь ксяндза ў Горадзенскай вобласьці. 'Кожны Паляк, — сьцьвэрджаў ён, — павінен пастаянна памятаць аб сваёй прыналежнасьці да каталіцкай веры. А то некаторыя людзі не наведваюць касьцёлу, **забыліся пра сваю нацыянальную мову** (падкрэсьлена намі — рэд. „Б-са"). Усе гэта можа прывесьці да адрыву ад сваёй нацыі, ад веры. Трэба ня толькі самым не адрывацца ад касьцёлу, ад сваёй культуры, але настойліва вучыць сваіх дзяцей каталіцызму. Гэта дапаможа ім вывучаць польскую мову і польскую культуру'."

Марціросаў аргумэнтуе супраць гэткіх разважаньняў польскіх ксяндзоў:

„Выразна праяўляецца канцэпцыя непадзельнасьці каталіцкай веры і польскай нацыянальнай культуры, — піша ён, — канцэпцыя яўна памылковая і шкодная. У корані няправільна атаясамліваць веравызнаньне і нацыянальную прыналежнасьць. Каму не вядома, што каталіцызм вызнаюць людзі дзесяткаў нацыянальнасьцяў, што міліёны Палякоў зьяўляюцца наогул няверуючымі? Няцяжка пераканацца ў памылковасьці прынцыпу 'Паляк — католік'. У пэўным кантэксьце гэты прынцып мае душок нацыянальных забабонаў, ён цалкам несумяшчальны зь ідэялогіяй і палітыкай дружбы і брацтва ўсіх савецкіх людзей".

Пішучы пра „навацыі", якія „закранулі многія элемэнты богаслужэньня і царкоўных абрадаў", Марціросаў згадвае й гэткую „навацыю": „ЗЬЯВІЛІСЯ ВЫПАДКІ БОГАСЛУЖЭНЬНЯ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ".

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў БЕЛАСТОЦКІМ КРАІ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЁЙ

**(Працяг з №№ 314 і 315)**

Да, скажам, стратэгічнае ролі беларускай мовы ў далейшых лёсах праваслаўнае царквы тут і цяпер мы яшчэ вернемся. Відаць, трэба так, калі нават многія вясковыя сьвятары, не гаворачы ўжо пра епіскапаў, прызнаюць яе ў прыватным жыцьці, а ў службовым — польскую мову ды сьветапогляд нацыянальны Палякаў. Яны ўжо Палякі! А іхныя дзеці нават не разумеюць, сям-там яшчэ „рускія" (расейскія) пропаведзі (зрэшты, часта-густа яны перахрышчваюцца ў касьцёлах, не прымяраючы, як колішнія вуніяцкія парохі-бацюшкі). Даруйма прыклады у кожнага свае яны, і справа зусім ня ў тым, што мы маем жаль да тых перахрыстаў. Не, няма ані жалю як такога, ані пачуцьця крыўды. Зноў-жа кажам: іхная справа, справа сумленьня кожнага, калі ня хочам прычакаць дзікага рэлігійнага фанатызму.

Прыклад дзяцей „бацюшкаў" (бацечкаў, пабеларуску), якія робяцца каталікамі, падаем дзеля ілюстрацыі ўсё той-жа нашай тэзы: выхаваньне толькі ў польскай культуры, без дадатковага беларускага выхаваньня, аўтаматычна выклікае псыхічную адчужанасьць ад царквы, яе "mało zrozumiałej młodemu Polakowi ruskości".

Мы-ж сказалі сабе, што пэрспэктыва праваслаўнае царквы ў Польшчы лімітаваная абсягам беларускае ды ўкраінскае нацыянальных меншасьцяў. Толькі невук можа думаць, што ў праваслаўя ёсьць будучыня і ў польскай сьвядомасьці. Яе ў ёй ніколі ня было, няма і цяпер, і ня будзе! Нехта зь недавучаных укажа нам на пратэстанцкія касьцёлы, якія ўтрымаліся ды сяк-так існуюць на Сьлёнску і недзе ў мазурскіх вакольлях. Дык, для яснасьці, па-першае, гэта на абшарах былое Нямеччыны, у васноўным пратэстанцкае, а па-другое, пратэстантызм быў некалі, у часы Рэнэсансу, значнай рэлігіяй сярод Палякаў ды пакінуў трывалы сьлед у польскай гісторыі і культуры, чаго аніяк нельга сказаць пра праваслаўную царкву, заўсёды сымбаль узьненавіджанай Расеі. Царква і ў цяперашняй сытуацыі ў польскай краіне мае паганую апінію "jako tej, która basuje władzy i jako ruska wtyczka bezwarunkowo popiera ją", бо prawosławni, tak zawsze". Праваслаўным быць — гэта быць чужым польскаму характару, які сфармаваўся і вырас у цені Ватыкану.

Дарэчы тут паслужыцца простым рахункам; у кожнага з нас ён свой з блізкага асяродзьдзя, а менавіта: колькі каталікаў мы ведаем такіх, якія перайшлі на праваслаўе, а колькі мы ведаем такіх праваслаўных, якія сталіся каталікамі, га?

І пытаньне: чаму гэта толькі нашым людзям кожная вера добрая ды вартая яе прызнаньня за сваю? Наш інтэрнацыяналізм настолькі інфантыльны, дзіцячы, што мы, Беларусы, зрабіліся гуртовымі фабрыкантамі нэафітаў, пяраваратаў, найгоршага гатунку людзінаў-фанатыкаў, рэнэгатаў.

***

Нас, Беларусаў, нацыянальны лёс гэта лёс бедных і слабых. Мы ад пачаткаў сваіх усё шукаем паратунку ды апекі ў кагосьці (ня ў прыклад ставячы, бы тыя Палестынцы). Ратуючыся ад мангольскіх наезьнікаў у XIII стагодзьдзі, мы кінуліся ў абдымкі літоўскім кунігасам і далі ім Вялікае Княства Літоўскае. Калі-ж створаная Іванам Грозным страшная Маскоўска-Руская дзяржава ўзялася рабаваць ды паліць нашы вёскі і гарады, выганяючы ў свой азіяцкі палон цэлыя ваколіцы Беларусі, мы пачалі шукаць ратунку сабе ў набліжэньні да Польшчы, аб'яднаўшыся зь ёю ў вадну дзяржаву, Рэчыпаспалітую Абодвух Народаў ад 1959 году, што скончылася палянізацыяй эліты беларускага народу, усіх тых Чартарыйскіх, Касьцюшкаў, Радзівілаў, Сапегаў, Кішкаў, Сангушкаў, Глябовічаў, Астрогскіх і г.д., і выганьнем нашае мовы з афіцыйнага жыцьця, у 1696 годзе, а якую яшчэ Зыгмант Стары „любіцельна мілаваў". Каб не падзел даўняй Польшчы, які пачаўся ў 1772 годзе, мы, як Беларусы, цяпер ужо былі-б адным усяго ўспамінам гісторыкам, усё роўна што зьнямеччаныя Прусы, племя тое блізкае сёньняшнім Літоўцам. Значыць, пашукалі збаўленьня мы ў Расеі, якой дзьвесьце гадоў назад так баяліся за ейную дзікасьць, перанятую ад крыважэрных Манголаў. У наш-жа век ды час Беларусь адыграла сумную ролю смачнага кавалка як для Расеі, так і для Польшчы.

У Варшаве 1920 году, калі Пілсудзкі лез на ўсход, было сказана нядвузначна: "Białoruś może być tylko albo polska albo rosyjska!" Мы, Беларусы, ад 1918 году, году апавяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, спрабавалі быць нарэшце сабою — ні польскімі ні расейскімі, але якраз сабою, Беларусамі, гаспадарамі свае долі, без падтакваньня камукольвек. І нам тое патроху ўдаецца, нягледзячы на ўсе нягоды ды праклёны, што шчодра сыплюцца на нашы пакутлівыя галовы.

Мы мусім быць сабою, бо мы хочам жыць, і то жыць на свой рахунак, не на чужы рахунак ды ласку, але, менавіта на свой, сваім хочам жыць!

Ня думаем, каб і гэта было злачынствам.

Ня будзем тым няшчасным кавалкам Афрыкі ў Эўропе. Да Нэграў місіянэры-ксяндзы прамаўляюць паангельску, папартугальску, пафранцуску, пагішпанску і паафрыканэрску, гэта значыць на мовах калянізатараў, тых мовах, якіх навучана іх бізуном, але і жыцьцёвай патрэбай (любяць гэтыя слоўцы, т.зв. жыцьцёвую патрэбу, нашы мужыкі з тытуламі інжынераў ды дактароў, бо гэтак лягчэй ім вырачыся сваіх бацькоў, каб самым хоць на паноў выйсьці ўрэшце рэшт!). Да нас-жа, Беларусаў з крыві і косьці, ксяндзы і бацечкі бессаромна прамаўляюць папольску і парасейску, — як няцяжка здагадацца — таксама на мовах калянізатараў, але нашае зямлі. А дзе-ж прапала навука Ісуса Хрыста, які сказаў сваім вучням: ідзеце ў землі розныя ды навучайце на мовах тамашніх, бо-ж усе языкі Госпаду мільмі ёсьць!

**(Працяг у наступным нумары)**

## БЕЛАРУСІКА Ў ЛЮБЛІНЕ

У гор. Любліне ў Польшчы адбыўся 12-14 кастрычніка летась сымпозіюм на тэму „Хрысьціянскія бізантыйска-славянскія традыцыі ў польскай культуры". У сымпозіюме ўзялі ўдзел і Беларусы. Было прачытана 32 даклады й паведамленьні. Выконваліся там польскія, беларускія, украінскія й расейскія песьні. Карэспандэнцыя пра сымпозіюм зьмешчаная ў „Тыгодніку Повшэхным" у нумары за 20.XI.83.

У Варшаве таксама адбыўся сымпозіюм у а.а. дамініканцаў, на якім сп. Ю. Туронак прачытаў даклад пра паходжаньне беларускае інтэлігенцыі. Даклад быў сустрэты вялікімі воплескамі.

**Н.**



# ЧАМУ Я ЭМІГРАВАЎ З САВ. САЮЗУ?

**Ад Рэдакцыі:** Аўтар гэтага сьветчаньня Валеры Канавалаў — малады мастак зь Беларусі, цяпер — пазаштатны супрацоўнік радыястанцыі „Свабода".

Валеры Канаваляў

Я пакінуў Савецкі Саюз 23 студзеня 1983 году, калі з прыходам да ўлады Андропава колькасьць эмігрантаў з СССР паменшала прыблізна да сотні чалавек у месяц.

Зразумела, што жаданьне эміграваць з Савецкага Саюзу ўзьнікла ў мяне не адразу. Яшчэ калі я жыў на Беларусі, асабліва ў школьныя гады, я, як і сотні іншых маладых беларускіх хлопцаў, быў цалкам пад уплывам афіцыйнай прапаганды, зь якой выходзіла, што Савецкі Саюз самая перадавая дзяржава сьвету, што жыць лепш, чым у СССР, нідзе немагчыма ды што савецкі сацыялізм самы лепшы дзяржаўны лад, пры якім ўсе народы, што насяляюць СССР, роўныя ў сваіх правох.

Але чым больш я сталеў, тым мацней адчувалася розьніца паміж афіцыйнымі цьверджаньнямі й тым, што бачылі мае вочы. Не апошнюю ролю тут адыграла й тое, што я быў веручым, а свабода рэлігіі ў Савецкім Саюзе існуе толькі на паперы. Таму, зразумела, за адкрытую веру ў Бога мяне паддавалі дыскрымінацыі й перасьледу з боку ўладаў.

Мае рэлігійнае мастацтва таксама выклікала іхнае незадаваленьне. Я быў пазбаўлены магчымасьці атрымаць мастацкую адукацыю ў навучальнай установе і адукаваўся самастойна. Пісаў іконы для царквы, рабіў малюнкі, якія потым неафіцыйна паказваў на хатніх выстаўках у Ленінградзе, як мастак зь Беларусі.

Гэтая мая, зусім не палітычная дзейнасьць, разам з адмоваю ісьці служыць у Савецкую армію, якая ў тым часе захапіла Афганістан, двойчы прывяла мяне ў „псіхушку". Другі раз пасадзілі мяне туды якраз тады, калі ў Маскве працаваў XXVI-ы зьезд КПСС, і КДБ тлумачыла гэтае маё зьмяшчэньне зьдзекліва-жартоўна: выходзіла, што я, быццам, зьбіраўся паехаць у Маскву, каб такім чынам сарваць працу зьезду...

Па выхадзе з „псіхушкі" мне было афіцыйна паведамлена супрацоўнікамі міліцыі, што на мяне ёсьць крымінальная справа па абвінавачаньні ў так званым „дармаедзтве". Прыгэтым тыя самыя супрацоўнікі далі ясна зразумець мне, што адзіны выхад ухіліцца ад суду — гэта пакінуць Беларусь і шукаць месца жыхарства хоць у Сібіры. Ня маючы іншага выйсьця, я пасяліўся пад Ленінградам у горадзе Выбаргу, дзе жыла мая жонка.

Гэтак вось тады ўжо, пад страхам крымінальнага перасьледу, я стаўся вымушаным эмігрантам, ня маючы магчымасьці жыць на Беларусі.

Аднойчы, калі я прыехаў на Беларусь, каб наведаць маці, мяне арыштавалі й трымалі некалькі дзён пад сьледзтвам. У асноўным мяне вінавацілі за літаратурна-публіцыстычны альманах „Містэрыі", у якім я сабраў некаторых аўтараў зь Беларусі й Ленінграду і аддрукаваў некалькі экзэмпляраў альманаха на машынцы. Наперакор усяму, мяне не засудзілі, але па вызваленьні з-пад сьледзтва я быў змушаны пакінуць межы Беларусі ды выехаць зноў у Выбарг, куды пазьней была перасланая й папка з маёй справай.

Заставалася толькі адно — эміграцыя з Савецкага Саюзу. Разам з жонкай мы напісалі пісьмо ў Ленінградзкі АВІР. У пісьме мы прасілі дазволіць нам выехаць з СССР у любую капіталістычную краіну Захаду. Адказу мы чакалі ня доўга. Неўзабаве з АВІРу прыйшло пісьмо, зь якога вынікала, што з прычыны адсутнасьці выкліку сваякоў зь Ізраілю, нам у просьбе на выезд адмоўлена. Для нас застаўся толькі шлях адмовы ад савецкага грамадзянства.

Мы напісалі заяву на імя Брэжнева, у якой прасілі даць нам магчымасьць выйсьці з савецкага грамадзянства з прычынаў палітычнага характару, гэткіх як нязгода: з савецкім дзяржаўным, палітычным і грамадзкім ладам, зь ідэялягічнай палітыкай партыі, зь перасьледваньнем органамі дзяржаўнай бясьпекі іншадумцаў, з ужываньнем псыхіятрыі ў Савецкім Саюзе ў палітычных мэтах, зь немагчымасьцю знайсьці для сябе ў Савецкім Саюзе палітычную, рэлігійную й творчую свабоду, з парушэньнем у СССР як савецкіх, так і міжнародных законаў.

Тэкст заявы, разам з пашпартамі, быў адпраўлены на адрыс Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР. Праз колькі тыдняў нас выклікалі ў АВІР, далі запоўніць некалькі папераў, неабходных для выезду, і прапанавалі забраць пашпарты.

Нажаль, гэтым справа й скончылася, у выезьдзе з СССР нам зноў было адмоўлена. І толькі пасьля наступнай пасылкі пісьма й пашпартоў у Прэзыдыюм, нам было афіцыйна дазволена зьбіраць патрэбныя паперы на выхад з савецкага грамадзянства і для падачы іх у Вярхоўны Савет СССР. Гэтая працэдура працягвалася некалькі месяцаў, і калі ўсе дакумэнты былі прадстаўленыя ў АВІР, нам сказалі чакаць на вынікі.

Не драмала й КДБ: у тым часе, калі мы чакалі вынікаў, на мяне быў арганізаваны напад некалькіх так званых „рабацяг-патрыётаў", а жонку спрабавалі пасадзіць у „псіхушку". Мы адчувалі, што кожны дзень можа стацца для нас апошнім днём на волі.

Але якраз тады памёр Брэжнеў і пачалася барацьба за месца Генсека. Зьверху прыйшло распараджэньне выпусьціць на Захад некаторых людзей, чые справы разьбіраліся АВІРам, да зьмены ў партыйным кіраўніцтве. У тым ліку пашанцавала й нам: нечакана мы былі выкліканыя ў АВІР ,дзе нам заявілі аб тым, што ў двухтыднёвы тэрмін мы павінны пакінуць межы СССР ды выехаць „да сваякаў у Ізраіль". Гэтак скончылася эпапэя мае эміграцыі з Савецкага Саюзу.

Цяпер, на Захадзе, я часта думаю аб тым, ці змог-бы я эміграваць, калі-б жыў на Беларусі. Хутчэй за ўсё што не. Адна з прычынаў гэтага — адсутнасьць публічнасьці. На Беларусі, ды і ў іншых частках СССР, якім адведзеная роля так званае „правінцыі", чалавека куды лягчэй засудзіць ці кінуць у „псіхушку" за палітычную актыўнасьць, чым у Маскве (або й Ленінградзе), дзе часта бываюць чужынцы ды існуюць розныя замежныя прадстаўніцтвы. Гэта адна з прычынаў такога невялікага працэнту эмігрантаў-Беларусаў. Другая-ж прычына, на маю думку, у тым, што эміграцыя Беларусаў на Захад прынесла-б з сабой праўду аб рэальным становішчы на Беларусі, а таксама павялічыла-б патэнцыял беларускай палітычнай эміграцыі. А ўзвышэньня нацыянальнага духу й самасьвядомасьці прыгнечаных народаў савецкія кіраўнікі баяцца больш за ўсё, нават калі гэта будзе адбывацца і за межамі СССР. Бо гэтыя з калючага дроту межы ўсё адно ня могуць парушыць адзінства беларускага народу.

**Валеры Канавалаў**

# ПРА БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Ад Рэдакцыі:** Аўтар ніжэй зьмешчанага артыкулу жыў у Польскай Народнай Рэспубліцы, адкуль у жніўні 1981 г. выехаў на Захад, дзе знаходзіцца й цяпер.

---

У Польшчы жыве амаль 200 тысячаў Беларусаў. Іхная доля да 1956 г. ў заняволенай чырвонаю Масквою польскай дзяржаве была жудасная. Ім стала лягчэй, калі маскоўскія ўплывы ў Варшаве паслабіліся пасьля гэтак званага „Польскага кастрычніка".

У 1956 г. было заснаване Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства (БГКТ) з галоўнай управаю ў Беластоку ды аддзеламі ў Варшаве, Бельску, Гайнаўцы, Дуброве, Саколцы, Сямяцічах і Гданьску.

З удзелам БГКТ была адчыненая кафэдра беларускае філялёгіі на Варшаўскім Унівэрсытэце й аддзяленьне беларускае філялёгіі ў завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У некаторых вёсках і мястэчках Беласточчыны былі арганізаваныя беларускія школы або прынамся ўведзеныя лекцыі беларускае мовы ў польскіх школах. Бальшыня беларускіх дзяцей пачала атрымліваць адукацыю ў беларускай мове.

Аднак камуністычная Варшава, падпарадкаваная Крамлю, не дазваляе Беларусам акрыяць, ня выпускаючы іхных навучальных установаў спад нагляду. Усякі беларускі патрыятычны ўздым Варшаве й Маскве коле ў вочы. Камуністычныя ўлады спыняюць усе спробы Беларусаў кіравацца сваім розумам у нацыянальна-культурным жыцьці. Беларусы ня могуць укладаць школьных праграмаў беларускае літаратуры, ня ўлічваючы агорклых парадаў савецкіх спэцыялістаў, якія імкнуцца русыфікаваць Беларусаў нават у Польшчы.

Ад 11 лютага 1956 г. выходзіць у Беластоку тыднёвік „Ніва", але тыражом толькі сем тысячаў экзэмпляраў. Гэтак званая польская народная ўлада не дае больш паперы.

У Беластоку выдаецца таксама часапіс для дзяцей „Зорка" (цяпер старонка газэты „Ніва" — Рэд. „Б-са"). Ад 1957 г. выходзіць штагоду „Беларускі Каляндар". Ад 1958 г. пры БГКТ існуе літаратурнае аб'еднаньне „Белавежа", штамесячна ў „Ніве" друкуецца „Літаратурная старонка". Ад 1962 г. „Белавежа" выдала шэраг анталёгіяў і зборнікаў маладых аўтараў (тыражом паміж 500 і 5000 экзэмпляраў).

У 1956 г. пачаў друкавацца майстар мініятурных апавяданьняў Сакрат Яновіч. у 1957 г. — аўтар традыцыйных вершаў Віктар Швэд, у 1958 г. — абстрактны паэт Яша Бурш, у 1959 г. — лірык Алесь Барскі.

На Беласточчыне жыве яшчэ шмат іншых беларускіх пісьменьнікаў, але іхныя выдавецкія магчымасьці вельмі абмежаныя. У лісьце да былога першага сакратара ПольскаеАб'еднанае Работніцкае Партыі Станіслава Кані Беларусы жаліліся, што ў 1970-х гадох выдавалася на год менш як адна літаратурная кніжка ды вельмі малым тыражом.

Беларускія пісьменьнікі ў Польшчы, аднак, у вадрознасьць ад сваіх калегаў у БССР, карыстаюцца большаю творчаю свабодай, іх ня гэтулькі забавязваюць „заваёвы Кастрычніка" ды ваенная тэматыка. Яны могуць карыстацца сучаснымі літаратруным формамі.

Нешматлікія беларускія выданьні, што зьяўляюцца ў Польшчы, граюць вялікую ролю ў павышэньні нацыянальнага самаўсьведамленьня Беларусаў. Гэткае самае значаньне мае ўсякая іншая дзейнасьць у сфэры беларускае культуры.

Вельмі вартасным стаўся „Падручны польска-беларускі слоўнік", выдадзены ў Варшаве тыражом 5.263 экзэмпляры.

Цяжка перахваліць агораны цягавітымі Беларусамі ў 1966 г. ў мястэчку Белавежа Беларускі Этнаграфічны Музэй. (**Заўвага:** У мэмарандуме БГКТ з 25.XI.1980 г. да першага сакратара кампартыі Польшчы С. Кані выказвалася жальба, што Беларускі Этнаграфічны Музэй у Белавежы быў ліквідаваны „ў палавіне 70-ых гадоў". Гл. „Беларус" № 288, сакавік 1981 году. Беларусы ў Польшчы ўсё яшчэ дамагаюцца каб музэй у Белавежы быў адноўлены. — **Рэд. „Б-са"**.)

Беларусам удалося таксама заснаваць свае клюбы ў Беластоку, Варшаве, Бельску, Гайнаўцы й Гданьску. Шкада толькі, што менскае начальства прысылае ў гэтыя клюбы больш расейскіх газэтаў, як беларускіх.

Ад 1957 г. да 1961 г. паслом у СССР у Варшаве быў Беларус Пётра Абрасімаў, а пасьля становішча гэтае займаў Беларус Станіслаў Пілатовіч, але ня было чу-

**(Заканчэньне на б. 4-й)**

